Przesyłka opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 25 гр.

№ 3 — Вільня, 15 Верасьня 1931 г. — Год I

# ГОЛАС ПРАЎДЫ

ПАЛІТЫЧНАЯ, ГРАМАДЗКАЯ І ЛІТЭРАТУРНАЯ ЧАСОПІСЬ. Выходзіць 2 разы ў месяц.

АДРЭС РЭДАКЦЫІ і АДМІНІСТРАЦЫІ: ВІЛЬНЯ, Бэліны 40—4. (Wilno, ul. Beliny 40 m. 4).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 10 да 1 г. дня.

„ГОЛАС ПРАЎДЫ" каштуе на год—6 зл. на паўгода 3 зл. на 3 мес.—1 зл. 50 гр, на 1 месяц—50 гр.

## ПРЫЧЫНЫ НАШАЙ СЛАБАСЬЦІ

Пра тое, што нашая грамадзкасьць уяўляе з сябе даволі слабавітую вялічыню многа казаць ня прыходзіцца. Карысьней будзе дашукацца прычынаў гэтага сумнага зьявішча, якое так ад'ёмна адбіваецца на ўсей нашай справе.

Што-б там ні казалі, а галоўную прычыну стварыўшагася палажэньня трэба шукаць у нас самых, у самым беларускім грамадзянстве.

Перадусім наш народ яшчэ ня зусім набыў нацыянальную сьвядомасьць і ў многіх выпадках ён не здае сабе добра справы з таго да якога „берагу" яму трэба прыплыць.

Сярод нашага народу даецца заўважыць тое, чаго ў іншых народаў не наглядаецца: даволі часта да беларусаў залічае сябе толькі той, хто падзяляе крайне радыкальныя пагляды палітычнага і сацыяльнага зьместу, рэшта-ж грамадзян лічыць сябе або за расейцаў, або за палякаў, а ў лепшым выпадку зашываецца „ў дурні" і ставае нейкую „тутэйшую" разнавіднасьць.

І толькі параўнаўча нязначная частка Белар. народу, зьяўляючыся нацыянальнасьведамай, выразна выяўляе сваё нацыянальнае абліччa.

Усё гэта—сумныя рэчы і павінны быць сумнымі ня толькі для беларускага грамадзянства. Галоўную прычыну гэтага зьявішча, трэба шукаць у тым, што за апошнія 10-год нашае палітычнае і грамадзкае кіраўніцтва „перагнула палку" і ўцягнула масы ў „палітыку", не зьвярнуўшы належнай увагі на нацыянальнае і культурнае ўзгадаваньне масаў.

Асабліва вялікую віну паносяць за гэта нашыя былыя паслы, якія амаль нічога не зрабілі ў нацыянальна—культурным кірунку.

Калі-ж нешта і рабілася, дык нават кожнаму „непасьвяшчонаму" ў справах было ясна відаць, што культурная праца, якую яны вялі, займала другараднае мейсца, а галоўныя іх мэты былі зусім іншыя. Здаралася і так, што паслы беларускага народу былі звычайнымі папіхаламі ў руках таямнічых падземных сілаў, імкнуўшыхся да разбурэньня ўсяго нашага грамадзкага і нацыянальнага жыцьця.

Замест таго, каб ладзіць навуковыя лекцыі, адчыняць народныя дамы, курсы і праф. школы—нашыя паслы бадзяліся па базарах, зьбіралі натоўпы людзей і падбухторвалі іх „ісьці на барыкады" і браць цытадэлі „фашызму". Калі нашыя „дзеячы" тварылі якую культурную працу і зьбіралі, напр. грошы на дом Беларускай культуры—то ў выніку ўсяго гэтага не аказвалася ні грошаў, ні таго „дому" на які яны зьбіраліся з даволі ахвярнага беларускага народу. Пасольскія мандады папсавалі нашых дзеячоў, зрабілі з іх у большасьці выпадкаў грамадзкіх лодараў і людзей ласых на даляры і чырвонцы. Выезд грамадаўскіх паслоў за граніцу і апошні арышт Тарашкевіча зьяўляецца самымі сумнымі старонкамі ў гісторыі нашай парлямэнтарнай „рэпрэзэнтацыі... „Які поп—такі і прыход". Народ, паддаўшыся дэмагогіі, ня бачучы запраўднай грамадзкай працы здэмаралізаваўся ў значнай сваёй частцы.

Дэмаралізацыя тым балей пашыралася яшчэ дзеля таго, што нашыя дзеячы ўвялі ў культ узаемнае абліваньне брудам, якое зьяўлялася аснаўным зьместам пэўнай часткі беларускай прэсы.

Бальшавіцкія „махеры" рабілі ўсё з такім разрахункам, каб у народзе падарваць веру ў ва ўсіх нацыянальных і палітычных правадыроў, якія не складалі прысягі на камуністычным маніфэсьце, і гэтым самым адчыніць дзьверы да самых шырокіх уплываў падземных сілаў. Гэтым толькі і можна вытлумачыць тую заўзятую „полеміку" якую вялі некаторыя нашыя газэты з усім тым, што ня мела выразнага камуністычнага кляйма.

І вось цяпер маем вынікі, над якімі прыходзіцца прызадумацца ня толькі беларускаму грамадзянству, але і таму польскаму, якое хоча дабра для нашага народу і якое ў палітыцы дэнацыяналізацыі, вёўшайся папярэднімі ўрадамі, ня бачыць вырашэньня беларускага пытаньня.

Вялікіх высілкаў патрэбна на тое, каб выйсьці з таго тупіка, у які загналі „добрыя людзі" нашую справу.

Але ўсё ліхое на сьвеце праходзіць, міне і крызіс, перажываны нашаю грамадзкасьцю.

Трэба толькі безадкладна імкнуцца да аб'яднаньня ўсіх здаровых беларускіх сілаў. Трэба асьвяжыць нашую грамадзкасьць, уліць новыя сілы на кіруючыя становішчы і тады хуткімі шагамі пойдзем наперад.

Перадусім-жа трэба пазбыцца бальшавіцкага „дурману" якім атручаны настроі значнай часткі нашага народу.

## Трагічная сьмерць пасла Тадэуша Галоўкі

Уначы з 29 на 30 жніўня ў Трускаўцу (каля Львова) было даканана страшлівае злачынства, ахвяраю якога паў пасол Сойму Т. Галоўка. забіты невядомымі дагэтуль спраўцамі.

Трагічная сьмерць пасла Т. Галоўкі ўзварушыла апінію ўсяе Польшчы і лішні раз давяла,—з якою энэргіяй падземныя сілы стараюцца перашкаджаць усялякім спосабам вырашэньню гэтак зв. меншасьцёвых пытаньняў.

Нябошчык быў адным з шчырых і дзейных прадстаўнікоў тае групы польскіх дзеячоў, якія імкнуцца да згоды ў краі, да мірнага сужыцьця ўсіх народаў, насяляючых Польшчу.

І вось гэга як раз зьяўляецца найбольш непажаданым для ўсіх тых, хто хацеў-бы каб беларусы і ўкраінцы вечна знаходзіліся ў стане агульнага незадаваленьня, каб на нашых землях не зьменшывалася нацыянальная ненавісьць і шовіністычныя настроі—каб карыстаючыся гэтым „псыхолёгічным грунтам" весьці і далей сваю разбураючую працу.

Гэтыя „падземныя сілы" стасуюць, як бачым крывавыя мэтады барацьбы з усім тым, што стаіць ім на перашкодзе, але нават і яны ня спыняць таго, што мусіць стацца і што зьяўляецца гістарычна патрэбным.

Кроў пасла Т. Галоўкі павінна ператварыцца як-бы ў той цэмэнт, каторы можа толькі ўзмацніць справу, распачатую нябошчыкам, справу, якая мусіць быць даведзена да канца, ня гледзючы на ўсе перашкоды, з якога-б боку яны ня выходзілі.

Тая частка польскага грамадзянства каторая імкнецца да ўнармаваньня нац.-культурнага жыцьця



сваіх „меншасьцяў" ў асобе Т. Галоўкі панясла вялікую крываваю ахвяру і гэтая ахвяра накладаець абавязак як на белерускае так і ўкраінскае грамадзянства напружыць усе высілкі ў кірунку барацьбы з усімі тымі сіламі, якія за ўсялякую цану стараюцца стаць гэтаму на перашкодзе.

Наступілі часы, калі павінны шчыльна самкнуцца рады сярод нашага грамадзянства ўсіх тых, хто запраўды імкнецца да дабра свайго народу і бачыць яго не ў разбурэньні, за якім можа прыйсьці толькі той „трэці", каторы навядзець свае „парадкі", — а ў мірным вырашэньні ўсіх спраў, быўшых дагэтуль „каменям" нязгоды паміж братніх народаў. Трэба выбіць зпадног грунт для тых сілаў, каторыя сваю мэту бачаць у паглыбленьні гэтай нязгоды.

Трагічная канчына пасла Галоўкі павінна зьявіцца пераламовым мамэнтам у настроях як нашага грамадзянства—так і польскага, яна павінна яшчэ балей зьблізіць тыя адламы гэтых грамадзянстваў, якія запраўды імкнуцца да мірнага сужыцьця ўсіх народаў, насяляючых Польшчу і гэтае зьбліжэньне пры ўзаемным зразуменьні павінна павесьці да вырашэньня ўсіх „пытаньняў" хуткімі крокамі наперад.

# Чаму сяляне уцякаюць з Саветау

Што дня ў газэтах прыходзіцца чытаць, што савецкія сяляне стараюцца перабрацца на гэты бок, уцякаючы са сваей „сацыялістычнай“ бацькаўшчыны.

Людзі, наражаючы сябе на сьмяротную небясьпеку,—ціхачом падбіраюцца пад польскую граніцу і ўначы пры спрыяючым „падарожным ветры“ пералазяць сюды.

Трэба ведаць, што ад добрага жыцьця—селянін ня будзе ўцякаць, кінуўшы сваю гаспадарку і ўсё сваё дабро, якое набывалася дзедамі і прадзедамі.

Абставіны ў Саветах злажыліся так, што там стала проста немагчымым жыць працоўнаму селяніну, не належачаму да пануючага камуністычнаго „шляхоцтва“.

Усё сялянства падзеляна камуністамі на клясы, да якіх яны адносяцца парознаму.

Тыя сяляне, якія маюць мазольныя ад працы рукі і якія абліваюцца потам, набываючы такім спосабам кавалак хлеба,—залічаны камуністычнаю ўладаю да г. зв. „кулакоў“ і ў лепшым выпадку да „сярэднякоў“.

Кулакі і сярэднякі зьяўляюцца ў Саветах запраўднымі рабамі, над якімі ўлада зьдзекуецца як толькі можа.

Для іх няма ніякіх законаў: усякі камісар, усякая камуністычная ячэйка, ці нават паасобны камуніст можа зрабіць з імі што захоча.

Сялян высылаюць на прымусовыя работы, забіраюць усё дабро да апошняга зярна, зьдзекуюцца як толькі могуць і г. д. Напасьледак прымусова заганяюць у камуны, дзе селянін, страціўшы ўсю сваю маемасьць, пераходзіць на палажэньне паднявольнага парабка.

Тая-ж частка сялянства, якая яшчэ да вайны не хацела працаваць, прапівала ўсё, што толькі пападалася пад руку,—знайшла ў камуністычнай уладзе добрага апякуна. Яе аднесьлі—да г. зв. „беднаты“, на якой фактычна і апіраецца камуністычная ўлада. Праўда, што нават сама гэная ўлада называе беднату „лодарамі“, але гэтая акалічнасьць не перашкаджае камуністам, апіраючыся на лодараў — душыць усё працоўнае сялянства.

І вось гэтыя самыя скамунізованыя „лодары“, якія ў Саветах адбіліся ад працы і страцілі да яе здольнасьць, зьяўляюцца запраўднаю пошасьцю савецкага працоўнага сялянства.

Кіраваныя праз камуністаў, яны займаюцца разьведкаю і даносяць на сялян, хто як думае і г. д. — дзякуючы чаму ўлада стасуе адпаведныя рэпрэсыі.

Яны вельмі ахвоча дзеляць усё тое, што не запрацавалі.

Жыцьцё працоўнага селяніна пры такіх парадках у шмат разоў стала горшым ад таго, якое было пры царскім рэжыме.

Камуністычныя ўрадоўцы, калгасныя (камуністычныя) гаспадаркі і свае вясковыя зладзеі — ператварылі савецкі „рай“ у запраўднае пекла.

Вось дзеля чаго сялянства ўцякае з Саветаў, вось дзеля чаго немцы-каляністы, чэхі і іншыя чужаземцы, за якіх заступіліся іхнія ўлады, даўно ўжо пакінулі „сацыялістычную“ дзяржаву і перабраліся на сваю старую бацькаўшчыну, якую пакінулі іх дзеды і прадзеды сотні гадоў таму назад.

Нашаму беларускаму селяніну варта было-б пацікавіцца — як запраўды жывецца ў Саветах і ці праўду яму кажуць мястэчковыя „палітыкі“, расхваліваючы савецкія парадкі...

Зрабіць гэта вельмі лёгка—трэба толькі спаткаць чалавека, які ўцёк з Саветаў і распытаць яго пра ўсё тое, што павінна ўсіх нас цікавіць.

# З савецкага жыцьця

## Салавецкія востравы сьмерці

Савецкія газэты маюць звычай вельмі шырока развадзіць пра той тэрор, які пануе ў „буржуазных“ дзяржавах, асабліва ў Польшчы, проці якой вядзецца заўзятая траўля.

У зьвязку з тым цікава паглядзець, што запраўды творыцца ў краіне чырвоных дыктатараў, якія так непакоюцца за лёс сваіх таварышоў, папаўшых за краты „фашыстоўскіх“ вастрогаў.

Лепш усяго можна пазнаць „Гуманнасьць“ камуністычнага ўраду на Салавецкіх лядоўнях, куды ён зганяе дзесяткамі тысяч сваіх ворагаў. Вось якія проста жудасныя весткі падаюць нам тыя людзі, якія толькі нядаўна вырваліся з гэтага запраўднага камуністычнага пекла.

Усіх вязьняў на Салавецкіх востравах у апошнія часы налічвалася каля 12.000 чалавек.

З гэтага ліку 30% інтэлігенцыі, амаль столькі-ж сялян, якіх высылаюць за пратэсты проці камуністычнага прыгону, а рэшту састаўляюць крымінальныя праступнікі. Летам 1926 г. гэтых апошніх было прыгнана 2800 чалавек—зладзеяў, прастытутак—сыфілітак, какаіністаў і іншых адпадкаў грамадзянства. Зроблена было гэта сумысьля, каб прысутнасьцю на Салоўках крымінальнага элемэнту зрабіць немагчымым існаваньне палітычным вязьням. Пачаліся кражы, забойствы, распаўсюдзіўся сыфіліс і г. д. Сярод інтэлігентаў можна знайсьці прадстаўнікоў розных нацыянальнасьцяў і прафэсыяў.

Ёсьць тут прафэсары, інжынеры, тэхнікі, аграномы і г. п.

З прафэсараў вышэйшых школаў там знаходзяцца: Папоў, Востокаў, Калошнікаў і інш. Сядзяць тут сацыялісты-рэвалюцыянеры, сац-дэмакраты, нават камуністы, „саграшыўшыя“ мысьлямі проці сваяго дыктатара-Сталіна. Адных ксяндзоў у 1927 г. было там 29 асоб і праваслаўных сьвяшчэньнікаў і біскупаў—62. Усе нацыянальнасьці, якія насяляюць Саветы—маюць там сваіх прадстаўнікоў.—Вельмі многа там беларусаў, украінцаў і палякоў. Апошніх налічваецца нешта каля 500 чалавек. З беларусоў павінен пакутаваць там аж 10 гадоў ведамы нам пісьменнік Фр Аляхновіч, с-р Мамонька і цэлы рад іншых грамадзян. Між іншым ня так даўно на Салоўкі прывязьлі партыю беларусоў студэнтаў (каля 20 чалавек) з ральнічае Акадэміі ў Горы-Горках і партыю б. вучняў Віленскае Белар. Гімназіі, якія паверылі ў свой час розным прадажным „запявалам,“ расхвальваўшым у сваіх газэтах Савецкія парадкі. Рэжым, які ўстаноўлены на Салоўках—проста жудасны. Жыцьцё політ-вязьняў ува ўсіх Эўрапэйскіх турмах (у тым ліку і ў Польшчы) зьяўляюцца раем у параўнаньні з Салавецкаю катоўняю.

Перадусім—усе мусяць працаваць па 10 гадзін штодня. Адпачынак толькі два дні на месяц.

Найцяжэйшыя работы—леса загатоўкі, дзе вызначаецца „урок“. На 3 чалавек даецца сьпілаваць 40 бярвён і ачысьціць іх ад сукоў, што зьяўляецца вельмі цяжкім, бяручы пад увагу рэдкі лес і глыбокія сьнягі. За адмову ад працы—халодны карцэр на хлебе і вадзе. Калі гэта не памагае—выводзяць босых на голы сьнег і трымаюць ад $1/2$ г. да 2-х пакуль замерзлы чалавек не ўпадзе. Лес вывозяць ня толькі на конях, але і на людзях. Для людзей вызначаецца „акорд“ (урок)—на 2 чалавек вывязьці паўтара мэтра на адлегласьць да 3 кілёмэтраў, пры зусім немагчымых дарогах. Вязьні з роспачы калечаць сабе рукі, каб ня ісьці на працу. Адзін вязень—нехта Тряпічнікаў за адмову ад працы трымаўся 3 дні ў карцары, у працягу гадзіны яго аблівалі вадою, а калі на ім уся вопратка замерзла—згадзіўся выйсьці на працу і толькі тады быў выпушчаны.

Прыйшоўшы ў лес Тряпічнікаў адцяў сабе левую кісьць, схаваў да кішэні пальцы і, прыйшоўшы да дазорцы Варабьёва—кінуў яму ў твар адсечаныя пальцы са славамі: „ на табе акорд“.

З роспачы людзі масава канчаюць жыцьцё самагубствам.

Палажэньне маладых жанчын немагчыма—кожны дазорца і вышэйшае начальства арыштантак ператварае ў сваіх наложніц.

У бараках, дзе жывуць вязьні—бруды, вошы і міріярды плюскваў.

Вязьняў катуюць і за ўсякае глупства растрэліваюць. Ад заразных хваробаў людзі ўміраюць тысячамі. У 1926 г. ад тыфусу памерла больш 3000 чалавек. На востраве Кону ў Х аддзеле за час ад 12 сьнежня 26 году да 21 траўня 1927 г. з ліку 512 вязьняў памерла, паводлуг дадзеных шпітальнай кніжкі—282 чал.

Многа чаго яшчэ можна было-б напісаць пра гэтую жудасную камуністычную катоўню, пра якую савецкія газэты нічога ня пішуць і вельмі ня любяць, калі аб ёй пішуць у заграпічнай прэсе.

Вось дзе запраўдны тэрор, вось дзе запраўдны зьдзек над усёй людзкасьцю і сучасным цывілізаваным сьветам.

І гэтыя людзі, якія рэжуць людзей як быдла, якія крывавую расправу ўвялі ў сыстэму — сьмеюць падымаць голас проці тых „зверстваў“, якія творацца ў „фашыстоўскай“ Эўропе.

## Пакушэньне на Сталіна

Усе газэты падалі вестку пра пакушэньне на дыктатара Саветаў—Сталіна, якое было на пачатку верасьня г. г.

# САВЕЦКАЯ ПЯЦІГОДКА і СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

„Частае выдзяленьне з зямельных грамад нават дробных калгасаў, прызнаюцца савецкія „аграрнікі“: нарушае землякарыстаньне. Селянін няведае ўчастку зямлі, якім ён будзе карыстацца праз год, а гэта вядзе да таго, што зямля пачынае кепска ўгнойвацца, кепска абрабляцца. Правільны севазварот робіцца немагчымым. Селянін перастае думаць аб будучым, а цікавіцца толькі тым, каб якнайбольш атрымаць прадуктаў у гэты год. У выніку — зямля пачынае кепска радзіць, ураджайнасьць паніжаецца. (Мінінзон і Юдовіч. „С.-Хоз. в пятілетке“. Стар. 23).

Бадай што нічога ня ножна дадаць да гэтае характэрыстыкі вынікаў неабдуманага „будаўніцтва“ кампартыі ў вёсцы.

Такім чынам ў выніку ўсяго гэтага гатаваньня павінен атрымацца ўпадак прадукцыйнасьці зямлі і голад шматмільённых масаў савецкай соцыялістычнай айчыны.

Наступаньню гэтае акалічнасьці шмат памаглі яшчэ руплівыя сталінскія выканаўцы і сам Сталін, пажадаўшы ў баявым парадку паскорыць у 1929/30 г. калектывізацыо і зьліквідаваць клясы. Няма больш глыбокай практычнай мудрасьці, чым тая, якая зьмяшчаецца ў народных пагаворках.

„Застаў дурня маліцца Богу—лоб сабе растаўчэ“. Так атрымалася і з Сталінскаю ўдарнаю кампаніей па масавай калектывізацыі і ліквідацыі клясаў, кампаніі, якая ў свой час нарабіла столькі шуму і якая скончылася бясслаўным правалам.

У вёску ў сьпешным і баёвым парадку былі скіраваны ўдарныя рабочыя дружыны, якія прыехаўшы туды ня ведалі самі, што рабіць і з чаго пачаць „рэканструкцыю“ сялянскае гаспадаркі. Пайшлі па лініі найменшае адпорнасьці. Сталі дзяліць, а з дасьвядчэньня ўжо вядома, што савецкі камуніст вялікі прыхільнік камунізму — падзелу.

Калі яго добра паскробсьці — дык зьявіцца чысьцейшае вады Махновец і бандыт.

Вядома, нічога годнага і не магло атрымацца ад таго крыжовага паходу, які быў выпраўлены на вёску.

Ад вялікага да сьмешнага—адзін крок. Замест „карэннай рэканструкцыі“ — атрымаўся суцэльны рабунак і хаос, ад якога, як падаюць газэты, пацярпелі, галоўным чынам, куры і парасята, бо ў першую чаргу яны зьвярнулі на сябе ўвагу зґаладалых камуністычных арганізатараў. Адным словам „мудрая“ савецкая палітыка перавяла на вёсцы нават усіх курэй.

Калі Сталін і яго партыя пабачылі да чаго фактычна прывёў гэты кампаход на вёску, вылаяў мацярна ўсю братву—і даў ёй ад гэтага часу гістарычны эпітэт „камдурняў“. Справа аднак ня ў гэтых камдурнях, якія ня ведаюць, што робяць, а сутнасьць і прычына ўсяе гэтае ўсерасейскае мухты зьмяшчаецца ў тым, што сучасная кампартыя ня мае канструктыўнае аграрнае праграмы што яна, выходзячы з мыльнае прадпасылкі аб творчай здольнасьці дыктатуры кампартыі, мае надзею завесьці соцыялістычны лад на вёсцы пры помачы гвалту і жорсткай эксплёатацыі працоўнага сялянства.

Пасьля ўсяго таго скандалу, які атрымаўся ў выніку гэтае чарговае бязглуздае камвыдумкі, партыя забарабаніла адыход і яе правадыры загаварылі па адрасу сялянства салодзенькім галаском. На салодкасьць гэтага тону ў большай меры зрабіў ўплыў настрой чырвонае арміі, на 80 % складаючайся з сялянскіх сыноў.

Савецкі Ўрад папросту спалохаўся, контррэвалюцыі і лішні раз пераканаўся, што трываласьць яго становішча залежыць ад настрояў і арганізаванасьці таго самага сялянства, з якім яно вядзе бязупынную рабунковую вайну.

Летам таго-ж 1930 г. сабраўся 16 зьезд кампартыі, які, як і ўсякі зьезд у краіне дыктатуры кампартыі, заняўся вызначаньнем „лініяў“. У тэ-

Ня гледзючы на тое, што Сталін акружыў сябе моцнаю і пэўнаю ахранаю—знайшоўся адзін чалавек, як раз з гэтай ахраны, некі грузін Чаўнікідзэ, які па загаду контр-рэвалюцыйнай арганізацыі меўся яго забіць.

З гэтаю мэтай падчас дыжурства каля дзьвярэй габінэту Сталіна—Чаўнікідзэ ўскочыў туды і два разы стрэліў у чырвонага дыктатара, які зваліўся на зямлю.

Думаючы, відаць, што Сталін ужо мёртвы—Чаўнікідзэ трэцю кулю пусьціў сабе ў лоб і на мейсцы памёр.

Аказалася аднак, што кулі Чаўнікідзэ ня трапілі Сталіна і той астаўся жывы.

У зьвязку з гэтым пакушэньнем, якое ўзварушыла камуністычны муравейнік усілілася ахрана асобы Сталіна. Апрача таго пэрсанальны склад стражы зьменяны і цяпер каравульную службу нясуць нямецкія камуністы.

Дрэнна, як відаць, стаяць справы ў Саветах, калі ня можна паверыць такую „місію“ як ахрана дыктатара сваім айчыстым камуністам, а прыходзіцца сьцягваць з гэтаю мэтай „верных людзей“ аж з Нямеччыны.

Магчыма, што хутка прыдзецца зьмяніць і гэтых, атрымаўшыся на кітайскіх „ходзях„, як гэта было ў 18 годзе.

## Як выглядае камуністычнае гаспадараваньне ў савецкай вёсцы.

Вельмі лёгка камуністам удалося разбурыць сельскую гаспадарку, абабраць працоўнае сялянства, нацкавадь адну яго частку на другую, зьнішчыць г. зв. кулакоў і вясковую інтэлігенцыю — але куды цяжэй аказалася павесьці гаспадарку на камуністычных падставах.

Усё гаворыць за тое, што камуністы папалі ў нейкі тупік, з якога няма ніякага выхаду.

Увялі прымусова „камуну“ з мэтаю павялічыць сельска-гаспадарчую прадукцыю, а тут аказалася, што прадукцыя гэта зьмяншаецца, бо савецкі „камунар“, папаўшы ў камуну, ня хоча працаваць ня гледзючы на бізун „брыгадзіра.„

З гэтае прычыны ўся савецкая прэса б'ець алярмы: там не хапае сена, там, глядзіш, зьмяншаецца колькасьць быдла, там збожа гніе на полі і г. д.

Прыходзіцца ўсіліваць і без таго жорсткія меры каб падняць працаздольнасьць „зкамунізаванае“ вёскі.

Вось, між іншым, адно з распараджэньняў вышэйшай савецкай улады, якое характэрызуе сучасную эпоху на Савецкай Беларусі. „Скончыць поўнасьцю сенаўборку да 5 жніўня“—крычаць камісары, а далей выясьняюць наступнае:

„Сенаўборка праходзіць нездавальняюча. Тэрміны сканчэньня ўборкі мінулі. Маюцца значныя плошчы натуральных сенажацьцяў з няскончанаю ўборкай сена, якія скарыстоўваюцца пад выпас. Ёсьць пагроза, што на паасобных раёнах значная плошча сена застанецца няўбранай.

Пад вашу адказнасьць прапаную правесьці дэкаднік сенаўборкі, скончыўшы яе да 5 жніўня (тады, калі каровы і коні патапталі і паелі няскошаную траву- Рэд), разгарнуць арганізацыю ўдарных брыгад, ўзяць адстаючыя сельсаветы, саўгасы і калгасы на грамадзкі буксір.

Для кіраўніцтва справаю дэкадніка мабілізаваць актыў.

Старшыня Савету Нар. Камісараў Белар. Сав. Сац. Рэспублікі—Бэнэк. („Сав. Беларусь“ 1/VIII 31) Бадай ці трэба што колечы дадаваць да падобнага роду дакумэнтаў, якія што-дня друкуюцца ў савецкіх газэтах.—

# Што чуваць на сьвеце?

## „Даразныя“ суды ў Польшчы.

З 10 верасьня г. г. на ўсім абшары Польшчы ўведзены г. зв. „даразныя“ суды. Пад даразны суд падпадаюць наступныя праступкі: 1) шпіёнства, 2) разрухі, 3) падпалы, 4) ушкадзэньне чугунак і тэлеграфаў, 5) забойствы і г. п.

У тым выпадку калі суд прызнае абвінавачанага віноўным у падобнага роду праступку—дык засуджвае яго на кару сьмерці, калі звычайны суд вызначыў-бы цяжкі вастрог.

Ад пастановы „даразных“ судоў няма ніякай апэляцыі і яны выконваюцца ў працягу 24 гадзін. Як на прычыну ўвядзеньня гэтых судоў газэты падаюць узрост рознага роду небясьпечных праступкаў: падпалы, забойствы, разбой і г. д., якія муцілі грамадзкае жыцьцё.

## Новы правал „камуністычнага дня“ ў Польшчы

Камуністы арганізуюць розныя „дні“ і сьвяты з тым, відаць, каб лішні раз паказаць сваю слабасьць.

Маскоўскі Комінтэрн загадаў каб 6 верасьня камуністы арганізавалі г. зв. „дзень моладзі“ і высыпалі ўсе на вуліцу, дзе павінны былі ладзіць дэманстрацыі, паходы і г. д.

Да ўсяго гэтага заклікаліся „міліённыя масы працоўных“, каб яны прадэманстравалі сваю сілу. І вось аказалася, што ў Варшаве напр. у гэты дзень было зусім спакойна і толькі пры вул. Смочай сабралася каля сотні смаркачоў, якія і былі разагнаны паліцыяй.

У іншых мяйсцох таксама не апраўдаліся надзеі камуністычных агітатараў і ўсюды ў гэты дзень абыйшлося без якіх—небудзь забурэньняў.

## Здушэньне рэвалюцыйнага руху ў Чылі.

У Чылі (Паўдзённая Амэрыка) камуністы паднялі паўстаньне ў мэтах захапленьня ўлады і ўстанаўленьня сваей дыктатуры па прыкладу Савецкай Расеі. За камуністамі пайшлі беспрацоўныя, матросы і частка салдат.

У першыя дні паўстанцы захапілі некалькі важных пунктаў і здавалася, што ўлада іх распаўсюдзіцца ва ўсёй дзяржаве.

Але здарылася тое, чаго камуністы не спадзяваліся: Чылійскі ўрад пры актыўным падтрыманьні зарганізаванага грамадзянства рашуча выступіў проці паўстанцаў і, як даносяць апошнія газэты, здушыў паўстаньне.

Наскольки былі паважнымі баі сьведчыць той факт, што з боку ўраду выступіла 80 самалётаў, якія закідалі бомбамі збунтаваныя караблі, патапіўшы некаторыя з іх.

Цяпер урад абсадзіў вернымі войскамі ўсе чугункі, парты і іншыя важныя пункты.

Беспрацоўных, якія спачувалі паўстанцам-высяляюць у асобныя концэнтрацыйныя лагеры, а кожнага дзесятага з ліку тых, хто папаўся са зброяю ў руках—растрэльваюць.

Чылійскае грамадзянства аддае ў распараджэньне ўраду ня толькі сябе, але і сваю маемасьць з тым, каб хутчэй здушыць рэвалюцыю. Чылійскія працоўныя масы, якія паддаліся правакацыі Камінтэрну, пераканаліся, цяпер, што няможна гвалтам накідаць камуністычную дыктатуру ў той час, калі большасьць грамадзянства ня хоча.

## Эканамічны крызіс у Амэрыцы.

У зьвязку з крызісам, які запанаваў і ў Амэрыцы — Форд—ведамы міліярдэр і фабрыкант зачыніў на нейкі час свой завод у Дітройце, пазбавіўшы гэтым працы 75.000 чалавек.

Гэты факт выклікаў аграмаднае ўражаньне ва ўсей Амэрыцы.

У прамысловых колах запанавала паніка, аднак дырэктар заводаў Форда прыймае ўсе захады, каб гэтая мера насіла тымчасовы характар.

Усё гаворыць за тое, што па прыкладу Форда пойдуць і іншыя фабрыкі і заводы.

Цяпер адкрыта гавораць у прамысловых сфэрах, што наступная зіма будзе вельмі цяжкай.

Лік безработных безупынна павялічваецца і зімою будзе перавышаць 7 мільёнаў чалавек.

# Розныя весткі з краю

### ЖАЛОБНЫЯ НАБАЖЭНСТВЫ І АКАДЭМІІ З ПРЫЧЫНЫ СЬМЕРЦІ СЬВ. ПАМ. ПАСЛА ГАЛОЎКІ

Адусюль надыходзяць весткі пра тое, што грамадзянства розных нацыянальнасьцяў,у тым ліку і беларусы—адгукнулася на прадчасную і трагічную сьмерць пасла Т. Галоўкі—жалобнымі набажэнствамі і Акадэміямі.

У Вільні 5 верасьня г. г. было адпраўлена жалобнае набажэнства ў Эвангэліцка - рэфармацкім касьцеле і жалобная акадэмія ў салі Сьнядэцкіх пры унівэрсытэце Ст. Баторыя, наладжаныя спэцыяльна ўтвороным Камітэтам.

### АГУЛЬНАЯ ПЕРАПІСЬ НАСЕЛЬНІЦТВА

Як вядома, 9 сьнежня г. г. ва ўсёй Польшчы будзе праведзена агульная перапісь насельніцтва.

Віленскія ваяводзкія ўлады ўжо атрымалі з Варшавы адпаведныя інструкцыі.

Згодна ім перапісь будзе даручана спэцыяльным камісарам, каторыя будуць кіравацца тымі-ж самымі правіламі, якія былі і ў 1921 г. з тою розьніцаю, што на гэты раз ня будуць запісвацца лясныя і земляробскія гаспадаркі.

Гэтая перапісь павінна быць вельмі для нас цікаваю, бо яна выявіць запраўдны лік беларусаў.

# ДОБРЫ ПРЫКЛАД

(Беларускае Дабрадзейнае Таварыства ў Стоўпцах)

У той час, як у нашым „цэнтры“ у Вільні — наглядаецца нейкі „застой“ і адсутнасьць здаровых праяваў грамадзкага жыцьця, дзе ўсё зьвялося да звычайнага інтрыганства і круцельства значнай часткі нашых „штандаровых“ дзеячоў, якім бадай ці ні найадпавяднейшым мейсцам быў-бы музэй—на правінцыі пачынаюць наглядацца праявы запраўднай грамадзкасьці, якія будуць мець вялізнае значэньне ў нашым нац.-культ. жыцьці.

Правінцыя саматугам імкнецца да пазытыўнае працы, памінаючы „падгніўшыя“ вярхі, у творчыя здольнасьці якіх страціла веру.

Вельмі характэрным і добрым прыкладам — зьяўляецца дзеяльнасьць мяйсцовай групкі беларускіх дзеячоў на чале з радным м. Стоўпцаў гр. Мік. Сабалеўскім і гр. гр. Базылём Каўбаскаю і Вольгаю Гундзіловічыхаю, якім удалося дабіцца зацьверджаньня Статуту Беларускага Дабрадз. Т-ва. 15 ліпня г.г. з Навагрудка пргыйшло даўно ча-

---

зах, якія былі запрапанованы гэтаму зьезду вызначаюцца паміж іншым, такія асноўныя палажэньні калгаснае палітыкі: 1) Калгасы могуць быць пабудованые толькі на падставе добраахвотнасьці. Усялякая спроба дапасаваньня гвалту альбо адміністратыўнае прылукі зьяўляецца грубым нарушэньнем лініі партыі.

2) Асноўнаю формаю калгасаў на данай стадыі зьяўляецца **сельска-гаспадарчая сябрына**. 3) Форма калгасу павінна адпавядаць гаспадарчым асаблівасьцям раёну і галінам гаспадаркі. Таму ў некаторых раёнах незбажовага характару, а таксама ў нацыянальных раёнах усходу, мажа ў першыя часы атрымаць масавае пашырэньне таварыстваў па супольнай апрацоўцы зямлі, як пераходная форма да сябрыны. 4) У адрожненьне ад саўгасу, які зьяўляецца дзяржаўным прадпрыемствам, створаным на сродкі дзяржавы, калгас зьяўляецца дабравольным грамадзкім аб'яднаньнем сялян, створаным на сродкі самых сялян, з усімі выцякаючымі адгэтуль вынікамі... Наркамзем С.С.С.Р. прызнае, што ў бліжэйшыя часы дробная індывідуальная гаспадарка будзе яшчэ адыгарваць **вялікую** ролю ў сельскай гаспадарцы С.С.С.Р. і таму зьвяртаецца да партыйных арганізацыяў з папярэджаньнем, „не ігнараваць аднаасабовае гаспадаркі, якая ў шэрэгу раёнаў краю будзе існаваць яшчэ адносна **доўга**. Партыйныя арганізацыі павінны дабіцца таго, каб у ўзаімнаадносінах калгасьнікаў з аднаасобнікамі ўсталілася правіла: „Не перасьледаваць аднаасобнікаў, а дапамагаць ім (!?) і ўсякім мерамі прыцягваць да калгасаў“ („Правда“ 19 траўня 1930 г. Цытавана па „Посьледнім Новосьтям“ ад 22 траўня 1930 г.) Няма мовы, што ўсе гэтыя „тэзысы“, маючы на ўвазе савецкія варункі, зьяўляюцца свайго роду „перадышкай“ для сялянства.

Усе гэтыя ісьціны-азбучныя, часткова да сьмешнасьці наіўны і больш падобны на пабожныя намеры на кшталт, напрыклад такой як „не перасьледаваць аднаасобнікаў“ чым на сур'ёзныя намеры партыі зьмяніць карэнным чынам свае адносіны да сялянства.

Характэрнай зьяўляецца і тая акалічнасьць, што на 13 годзе камуністычнага панаваньня на вёсцы, партыя ўпершыя напала на тую шчасьлівую думку, што ў справе калектывізацыі трэба пераходзіць ад менш скамплікаваных формаў да больш скамплікаваных і што таму „асноўнаю формаю на дадзенай стадыі зьяўляецца сельскагаспадарчая сябрына“, і што форма калгаса павінна адпавядаць гаспадарчым асаблівасьцям раёну.

Колькі няшчасьцяў змушана была перажыць савецкая вёска да таго часу, пакуль камуністы „ня прышлі да розуму“ і не пазналі, хаця-б і пад націскам вонкавых акалічнасьцяў, таго простага закону грамадзкага разьвіцьця, аб якім намі ўжо ўспаміналася вышэй.

І ўсё-ж такі, нягледзячы на ўсе гэтыя запэўненьні камуністычных тэзысаў, у нас няма ніякае надзеі на тое, што ў вёсцы будзе ўсё мецца „шчасьліва“ і што там калі-небудзь створацца нармальныя варункі для нармальнага разьвіцьця соцыяльна-эканамічных адносінаў. Камдурні розных сартоў і масьцяў безварункова будуць па старому ўстаўляць у гэнае разьвіцьцё палкі, будуць эксплёатаваць вёску, зьдзіраючы яе да ніткі— і ўсё гэта будуць рабіць для свайго „ідала“ „гарадзкога гогэмона“ і свае ўласнае кіруючае касты. Вельмі вялікія ахвяры прыносяцца для тых проблематычных вартасьцяў, якія ствараюцца на рахунак працоўнага сялянства.

Так будзе прадаўжацца аднак да тае пары, пакуль працоўнае сялянства „ня войдзе ў сілу“ і не забярэ голасу ўва ўсіх тых справх, якія датычаць яго інтарэсаў.

*Ф. Акінчыц*

КАНЕЦ

канае паведамленьне ад ваявудзкіх уладаў пра тое, што статут зацьверджаны і што Дабр. Т-ва можа распачаць сваю працу.

Згодна статуту—Т-ва мае права аказваць рознага роду матэрыяльныя запамогі і вясьці культурна асьветную працу.

Мясцовы магістрат па ініцыятыве радных—беларусаў, вызначыў Дабр. Т-ву яшчэ ў 1930 г.—запамогу ў 1000 зл. і такую-ж самую запамогу ўхваліў выдаць і ў гэтым годзе.

Апрача таго ёсьць надзея, што грамада б. сялян м. Стоўпцаў, маючая значныя капіталы, — будзе даваць запамогі на культурна-асьветныя мэты.

У верасьні г. г. Б. Дабр. Т-ва. прыступае да працы, прадугледжанай у Статуце.

Трэба адцеміць як дадатняе зьявішча—вялікае зацікаўленьне да Т-ва з боку „шэрэговага“ беларускага грамадзянства, складаючагася пераважна з сялян м. Стоўпцаў.

Гэтаю беларускаю пляцоўкаю зацікавіліся ня толькі стаўпляне, але і нацыянальна-сьведамая частка бел. грамадзянства ваколічных вёсак—дзеля чаго ёсьць падставы спадзявацца, што дзеяльнасьць Б. Д. Т. будзе прыкладам для іншых раёнаў, дзе да гэтага часу пашыралася толькі дэмагогія і ўсялякага роду разбураючая праца розных нашых „прыяцеляў“.

# Беларуская хроніка

## Суд над студэнтам Сарокай

22 верасьня г. г. Віленскім Акр. Судом будзе разглядацца справа студэнта беларуса Сарокі, які пацягнуты праваслаўнымі царкоўнымі ўладамі да судовай адказнасьці за надрукаваньне ў аднаднёўках „Проч з ліхазельлем“ і „У імя праўды“ (да рэдактарства якіх прызнаўся студ. Сарока) цэлага раду фактаў, кампрамітуючых праваслаўную царкоўную ерархію. А факты, якія былі пададзены ў аднаднёўках—аказаліся такога роду—што адзіным выхадам для царкоўных уладаў аставалася жальба ў Суд, які павінен разглядзець гэтую справу.

Як нас інфармуюць, студ. Сарока перакананы ў справядлівасьці сваей справы і пэўны, што яму і на судзе ўдасца давесьці правідловасьць усяго таго, што было надрукована.

Беларускае грамадзянства вельмі цікавіцца—чым закончыцца гэтая справа і які будзе прысуд.

Ёсьць падставы думаць, што гэтая цікавая з усіх бакоў справа зьбярэ на судовую салю шмат людзей, як з беларускага так і расейскага грамадзянства.

## Пачатак заняткаў у Навагрдзкай Гімназіі

Навагрдзкая гімназія перажывае ў гэтым годзе „крызіс“ з памешканьнем.

Новы будынак яшчэ не закончаны, а са старога прыйшлося выбрацца перад самым пачаткам заняткаў. Цяпер гімназія памяшчаецца за местам у нейкіх хатах, цесных і неадпаведных сваім заданьням.

Будаўляны К-т пастанавіў безадкладна прыступіць да заканчэньня будовы новага гімназіяльнага будынку і, як кажуць, ваяводзкія ўлады абяцалі прыйсьці з матэрыяльнаю дапамогаю ў працягу гэтага месяца з тым, — каб было магчымасьць закончыць распачатую будову ў працягу бліжэйшых часоў.

Ліквідацыя гімназіі ў Клецку прычынілася да таго, што лік вучняў Навагрдзкай гімназіі павялічыўся — бо частка старэйшых вучняў Клецкае гімназіі,—нешта каля 20 чал.—перайшла ў Навагрдак, дзе цяпер налічваецца 140 чалавек. Заняткі пачаліся 6-га верасьня.

## Ахвяруйце кніжкі на беларускую бібліотэку!

У Стоўпцах у хуткім часе новаўтворанае Беларускае Дабрадзейнае Т-ва мае адчыніць бібліотэку-чытальню.

Нашае грамадзянства павінна прыйсьці з дапамогаю новай беларускай пляцоўцы, ахвяруючы кніжкі, камплекты газэтаў і г. п.

Ахвяры аб якіх будуць зьмяшчацца справаздачы, прыймаюцца ў рэдакцыі нашае газэты.

# ВЫЛЕЗЛА ШЫЛА З МЯШКА

На пачатку гэтага месяца ў нейкім савецкім курорце падчас купаньня ўтапіўся сябра Ц. К. Камуністычнай Партыі З. Б. Арсень Канчэўскі, ведамы многім і на віленскім грунце са сваей камуністычнай працы.

Гэты сам па сабе малазначны факт, над якім ня прыйшлося-б і затрымоўвацца аказаўся цікавым вось з якога боку: выявілася, што Савецкія ўлады і камуністычная партыя вельмі цанілі гэтага чалавека, арганізавалі яму пышныя чыста царскія паховіны, перавязьлі яго цела ў Менск і г. д.

Алеі гэтаму ня прыходзіцца дзівіцца, бо ўсім ведама, што камуністам у Саветах жывецца добра ня толькі пры жыцьці, але і па сьмерці. Цікавейшым аказалася тое, што ў зьвязку з гэтаю сьмерцяй выступілі і б. правадыры Грамады Р. Міхайлоўскі, Мятла і Бурсэвіч, аб якіх за апошнія часы ня было чуваць.

Выступілі на старонках Менскай „Зьвязды“ (ад 6 верасьня 31 г.) са спэцыяльнымі артыкуламі, прысьвечанымі нябошчыку, з якім у свой час сябравалі.

Вось што, між іншым, піша б. грамадавец і б. пасол Сойму П. Мятла:

„Сьмерць вырвала з нашых радоў яшчэ аднаго змагара - рэвалюцыянэра. Тав. Бладэк (псаўдонім Канч.) памёр, але справа, за якую ён змагаўся, жыве і будзе жыць.

Я пазнаёміўся з тав. Арсенам яшчэ ў 1920 г. З таго часу аж да самага арышту т. К. мы не парывалі з ім зьвязі... Ён зьяўляецца ўсюды па першым закліку, дзе заўважаецца а с л а б л е н ь н е р а б о т ы, а б о д з е в ы я ў л я е ц ц а п р а р ы ў.

І ведае добра З. Беларусь свайго найлепшага таварыша, кіраўніка члена Цэнтр. Камітэту Камуністычнай Партыі Зах. Беларусі“.

Далей ідзе апісаньне яго жыцьця ў турмах і тых „карысьцей“, якія ён даваў сваім турэмным таварышам. „За 4 гады турэмнага жыцьця“ аттэстуе Мятла свайго таварыша і кіраўніка: „яшчэ больш загартаваўся да барацьбы. Ня трацячы ні аднэй хвіліны тав. Канчэўскі зноў становіцца ў рады актыўных змагароў К. П. З Б.“

Яшчэ больш выразную характэрыстуку як Канчэўскага так і самага сябе даець другі б. правадыр Грамады С, Рак—Міхайлоўскі.

„Згінуў змагар“—кажа ён:—загінуў у росквіце сіл адзін з выдатнейшых барацьбітаў за сацыяльную рэвалюцыю ў Польшчы...

Сум агортвае кожнага, хто ведаў тав. „Владэка“, х т о п р а ц а в а ў з і м. У рэвалюцыйнай падпольнай партыйнай рабоце ў З. Беларусі, па арганізацыі працоўных мас вызначаўся т. „Владэк„ як нястомны змагар... Згасла добрае жыцьцё, загінуў барацьбіт.

Але жывуць сотні тых, якія непасрэдна вучыліся ад яго мэтадам падпольнай партыйнай работы. (Ці ня і Р-Міх. у тым ліку? Рэд.), жывуць тысячы тых, якія па яго, як члена Ц, К. К. П. З. Б. інструкцыях і дырэктывах вялі і бязупынна вядуць барацьбу за справу пралетарыяту...

Прыблізна тое самае напісаў і трэці грамадавец з ліку ўцёкшых у Саветы—М. Бурсэвіч. Зьмест таго, што напісалі б. грамадаўцы—вельмі выразна высьвятляе палітычнае аблічча тых людзей, якія крычалі ўсім што яны „нічога супольнага з камуністамі ня маюць“ і вядуць толькі нацыянальную справу.

Сьмерць сябра Ц. К. К. П. З. Б. Канчэўскага знайшла водгукі і тут у Вільні сярод часткі беларускага грамадзянства, якая ніяк ня можа вырашыць да якога боку ёй „прычаліць.“ Бел. Звон прысьвяціў гэтаму факту вельмі жалобны артыкул

„З Менску прыйшла сумная вестка“—чытаем там: „утапіўся Арсень Канчэўскі“...

„Ён прымаў чыннае ўчасьце ўва ўсіх галінах бел. грамадзкае працы, выклікаючы гарачую сымпатыю з боку ўсіх, каму прыходзілася з ім працаваць...“ У такіх прыблізна сказах састаўлены афіцыёзам Астроўскага і Луцкевіча артыкул пра Канчэўскага.

Што Канчэўскі, як чалавек, быць можа і добры, аб гэтым ня будзем спрачацца, але калі ідзе мова аб ім як грамадзкім дзеячы—то перадусім павінен кідацца ў вочы той факт, што ён выразны, „сто працантовы“ камуніст з ліку тых, якія ўводзяць у Саветах прыгон, грамяць беларускі нац. адрад жэнскі рух, забіваюць людзей, высылаюць у Сыбір і на Салавецкі востраў—сьмерці дзесяткаў тысяч „непакорных“ і г. д.

Што датычыць яго працы тут на нашых землях, аб якой з такім захопленьнем адзываецца „афіцыёз“ Астроўскага і Луцкевіча—то перадусім трэба памятаць, што ён зьяўляўся адным з галоўных камуністычных „гэрштаў“, якія разбуралі нашыя гімназіі; ніхто іншы як ня ён уцягваў нашую моладзь у камуністычныя „ячэйкі“, падбухторваў яе да забастовак, і розных „выступленьняў“—і ў гэты спосаб калечыў яе жыцьцё.

Дзіўна неяк укладаецца справа ў нашым грамадзянстве... Усё гэта забываецца як раз тымі, хто больш ад усіх павінен памятаць пра найбольш сумныя часы з гісторыі нашых школаў. І дзіўна неяк зламылася, што „Бел. Звон“ зусім ссалідарызаваўся з бальшавіцкай „Зьвяздой“, датычна хвалебнага звону камунісьце Канчэўскаму.

# Чарговая Савецкая правакацыя

Як падаюць газэты, за апошнія часы заўважана, што з прыгранічных раёнаў беларусы-сяляне пачалі ўцякаць у Саветы. Камуністычная прэса тлумачыць гэтае зьявішча тым, што „ўтой час калі небывалы крызіс шалее на ўсім капіталістычным сьвеце ў Савецкім Саюзе ў небывалым тэмпе творыцца будаўніцтва социялізму — і таму вочы працоўных масаў усё часьцей зварочваюцца ў бок Савецкай Расеі.“

У запраўднасьці справа выглядае крыху інакш. У зьвязку з тым, што савецкае сялянства пачало ўцякаць ад прыгоннай працы ў камунах і пракідвацца на наш бок і што такое зьявішча аказалася палітычна невыгадным для Савецкага ўраду—камуністы атрымалі загад вясьці шырокую агітацыю сярод нашага сялянства, падбухторваючы мала сьвядомых вясковых хлопцаў уцякаць у Саветы, дзе будзе „праца“ і дзе існуюць „райскія“ ўмовы жыцьця.

У гэтым кірунку вялася вельмі інтэнсыўная агітацыя і дзякуючы малай сьвядомасьці нашага сялянства і адсутнасьці беларускай прэсы, якая-б высьвятляла падобныя справы — многія паверылі камуністычным вярбоўшчыкам у тым, каб потым горка пашкадаваць за свой неразважны крок.

Цяпер да нас даходзяць весткі, што ўсіх „бежанцаў“ камун. улада запёрла ў „калгасы“, дзе яны павінны працаваць нароўні з іншымі сялянамі, якіх гвалтам загналі ў прыгон.

Многія ўжо апынуліся ў Сыбіры і на Салоўках.

Трэба памятаць, што ўсё савецкае сялянства вядзе жорсткую барацьбу з камуністамі проці таго прыгону, які там устанавіўся.

Нашыя хлопцы, якія пашлі шукаць там лёгкага хлеба—фактычна апынуліся на палажэньні памоцнікаў тых, хто душыць усё працоўнае сялянства. Камуністычныя ўлады выкарыстоўваюць нашых бежанцаў для барацьбы з сялянствам пры арганізацыі коллектываў і камун. Тыя-ж сумленныя людзі, якія зразумелі камуністычную правакацыюператварыліся там у „контр-рэвалюцыянераў“.

Абавязкам нашага грамадзянства зьяўляецца растлумачыць мала сьвядомым сялянам, як запраўды жывецца савецкай вёсцы і што фактычна там робіцца. Ніякага „лёгкага хлеба“ там няма, як няма і камісарскіх пасадаў, а ёсьць толькі камуністычная правакацыя, маючая на мэце ашукваць і далей нашае сялянства, каб пісаць потым у сваіх газэтах, што „вочы ўсіх працоўных глядзяць на Саветы“, дзе так добра жывецца.

Добра жывецца толькі камуністам і іх прыслужнікам усё-ж няўпрывіляванае жыхарства жыве ў нэндзы, працуючы пад бізуном камуністаў брыгадзіраў. Тыя, хто туды ўцёк—пераканаўся ў гэтым на сваёй уласнай скуры.

# Неабходная папраўка

Многія нашыя грамадзяне проста памяшаліся на „дэфэнзыве:“ усё тое, што ім не падабаецца, або чаго яны дакладна ня ведеюць яны, як кажуць „з пляча“ адносяць да крыніцаў, маючых „дэфэнзыўны“ характар.

Тое самае здарылася, з „Б. Крыніцаю“, калі яна ў № 26 на наш артыкул у справе беларускіх гімназіяў гаворыць, што мы стараліся „пры помачы *дэфэнзыўнага паходжаньня дакумэнтаў* палажыць камуністычнае кляймо на Клецкую беларускую гімназію“.

Гэтакага зьместу зацемка змушае нас выявіць, што той дакумэнт, які намі цытаваўса ў папярэднім № газэты зусім ня мае таго характару, які прыпісвае яму „Крыніца“.

„Камунікат“, аб якім ідзе мова, быў выдадзены пасольскім клюбам „Змаганьне“ у зьвязку з забурэньнямі ў Клецкай гімназіі і рассылаўся ён у вялікай колькасці па нашых вёсках дзеячамі з пад „Змаганскага“ знаку.

Рассылаўся ён нават і па вастрогах і як раз аўтар арт. „Беларускія гімназіі“ атрымаў яго не з дэфэнзывы а ў Равіцкім вастрозе, куды быў прысланы адным з грамадзян.

Вось якое паходжаньне таго дакумэнту, на які зусім няслушна „Крыніца“ хацела-б накінуць „цень“.

Можам запэўніць рэдакцыю „Крыніцы“, што ён зусім аўтэнтычны і што ніхто яго не сфабрыкаваў.

Каб „Крыніца“ больш цікавілася тою „літэратураю“, якою труюць нашыя сялянскія масы розныя падземныя сілы, то і яна павінна была-б мець у архіве рэдакцыі ўсе тыя „камунікаты“ і праклямацыі, якія рассылаліся змаганцамі і камуністамі па вёсках і тады ўсякае агалошаньне падобных дакумэнтаў ня было-б „неспадзеўкаю“ для ўсіх тых, хто павінен цікавіцца праявамі грамадзкага жыцьця.

# НАША ПОШТА

М і к у л і к у Н. Што нашая часопісь не падабаецца камуністам—нас гэта ня дзівіць. Пішыце і што будзе надавацца да друку — выкарыстаем. Вершык Ваш пойдзе ў наступным нумары газэты.

А с т а п ч ы к у Н. З гэтаю справаю зьвярнецеся беспасярэдна ў коопэратыўны банк (Wilno ul. Królewska Białoruski Kooperatywny Bank). Магчыма, што пазыку атрымаеце.

М. Л. Вершы не падыходзяць. Начаю мэтаю не зьяўляецца „сьпяваць“ пра розныя любоўныя паходжаньня. Есьць рэчы паважнейшыя. Кіньце пісаць вершы і займецеся больш карыснаю і мэтаадпаведнаю працаю, бо, як відаць з прысланага вершу, з вас, здаецца, паэты ня будзе, дык не марнуйце на гэта часу.

Рэд.-Выдавец ФАБІЯН АКІНЧЫЦ.

Вільня, Друк. У. Знамяроўскага, Квашэльная 23